Праваабарончы
# Веснік
№2 (51), люты 2015
Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

# ПАЛІТВЯЗНЮ МІКАЛАЮ ДЗЯДКУ ПРЫСУДЗІЛІ ЯШЧЭ АДЗІН ГОД ЗНЯВОЛЕННЯ

## Палітзняволенаму дадалі год за кратамі за 4 дні да вызвалення.

26 лютага ў Магілёўскай турме быў завершаны разгляд крымінальнай справы палітзняволенага Мікалая Дзядка. Яго вінавацілі ў парушэнні рэжыму адбыцця пакарання па артыкуле 411 Крымінальнага кодэксу РБ. Суд пакараў Мікалая Дзядка 1 годам зняволення ў калоніі строгага рэжыму. Яшчэ тры дні яму прыдзецца адбыць ад ужо амаль мінулага тэрміну.

Дзядку інкрымінавалі 16 парушэнняў рэжыму ў месцах зняволення, асноўным з якіх з'яўляецца нашэнне замест турэмнай робы спартыўнага касцюма.

25 студзеня на судовае пасяджэнне ў турму дапусцілі бацьку палітвязня Аляксандра Мікалаевіча Дзядка і жонку Валерыю Хоціну. Паводле Валерыі, Аляксандар Мікалаевіч хадайнічаў, каб яму дазволілі выступаць абаронцам інтарэсаў сына. Суддзя Ленінскага суду Магілёва Ігар Шведаў адхіліў гэтае хадайніцтва, але дазволіў выступіць на працэсе сведкам па характарызуючых прыкметах.

Намеснік кіраўніка ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч пракаментаваў вынікі судовага працэсу па справе Мікалая Дзядка:

*«Мы адназначна прызнаем вынесенае рашэнне ў дачыненні да Мікалая Дзядка палітычна матываваным. Бачна, што асудзілі яго за тыя дысцыплінарныя спагнанні, якія былі накладзеныя на яго значна раней. Асаблівы цынізм заключаецца ў тым, што судовае паседжанне адбывалася літаральна за лічаныя дні да сканчэння тэрміну зняволення палітвязня. Увогуле, наяўнасць арт. 411 у Крымінальным кодэксе недапушчальна, таму што дае магчымасць адміністрацыі месцаў зняволення выкарыстоўваць яго выбарачным чынам у дачыненні да тых, кім адміністрацыя незадаволена.*

*Шкада, што беларускія ўлады не прыслухаліся да меркаванняў праваабаронцаў. Такім чынам яны дэманструюць сваё стаўленне да пытання палітзняволеных у Беларусі і відавочна не збіраюцца змяняць сваёй пазіцыі. Ніякіх вызваленняў палітзняволеных чакаць не прыходзіцца».*



*Мікалай Дзядок*

*Актывіст анархісцкага руху Мікалай Дзядок быў асуджаны 27 траўня 2011 г. судом Заводскага раёна г. Менску па ч.2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства) на 4,5 года зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Сваёй віны актывіст на судзе не прызнаў і адмовіўся падпісваць прашэнне аб памілаванні на імя прэзідэнта.*

*Падчас адбыцccя пакарання ў канцы траўня 2012 г. паводле рашэння начальніка Шклоўскай калоніі №7 Мікалай Дзядок быў пераведзены ў памяшканне камернага тыпу на паўгады. Да гэтага яго неаднаразова прымушалі пісаць прашэнні аб памілаванні. За час знаходжання ў магілёўскай калоніі №15 і 17-й калоніі ў Шклове Мікалай атрымаў больш за 10 спагнанняў за розныя надуманыя парушэнні.*

*4 снежня 2012 г. стала вядома, што адмысловая камісія калоніі прыняла рашэнне аб пераводзе Мікалая Дзядка ў турму за шматлікія спагнанні за парушэнне дысцыпліны.*

*У лістападзе 2014 года, за 3 месяцы да сканчэння тэрміну, на Мікалая Дзядка завялі новую крымінальную справу па артыкуле 411 КК РБ за "парушэнне рэжыму адбыцця пакарання".*

# РАСПЯТЫЙ МАЛЬЧИК И ДВА РАБА. ТОП-10 ФЕЙКОВ РОССИЙСКОЙ ПРОПАГАНДЫ

За прошедший год российская пропаганда достигла невероятных высот в создании сюжетов о зверствах «украинской хунты». Телеканалы РФ каждый месяц выдавали в эфир не подтвержденные никакими фактами истории о том, как бойцы ВСУ распинают детей на площадях, делают из подростков мишени для ракет, а из взрослых – рабов, и убивают снегирей, спасая синичек. Украинское издание «Гордон» сделало подборку самых громких фейков российских журналистов.

### №1. Визитка Яроша

20 апреля министерство иностранных дел РФ опубликовало заявление, в котором сообщалось, что в пасхальную ночь «боевики «Правого сектора» напали на блокпост в Славянске». Российские журналисты же утверждали, что в «сожженных боевиками автомобилях пророссийских граждан Славянска», помимо оружия и долларов, были найдены визитки лидера «Правого сектора» Дмитрия Яроша. Сеть взорвалась потоком комментариев, а в магазинах предприимчивые граждане стали продавать календарики, значки и чехлы для мобильных телефонов, сделанные в виде «визитки Яроша», которая ни в воде не тонет, ни в огне не горит.

### №2. Ярош – президент

«Правый сектор» в начале года был главной страшилкой для российских граждан. Не удивительно, что на президентских выборах в мае



*Расійскі «Першы канал» хлусіць пра вынікі прэзідэнцкіх выбараў ува Украіне*

он победил. Ну, по крайней мере, так сообщил «Первый канал», ссылаясь на скриншот неизвестного сайта, который напоминал сайт украинской Центральной избирательной комиссии. По словам журналистов, Дмитрий Ярош набрал 37,13% голосов украинцев. Но президентом стал почему-то все-таки Петр Порошенко.

### №3. Распятый мальчик в Славянске

12 июля опять-таки «Первый канал» выпустил в эфир сюжет, в котором некая Галина Пышняк, уроженка Западной Украины, мать и жена «ополченца» рассказала жуткую историю из Славянска: «Взяли ребенка трех лет, мальчика маленького в трусиках, в футболке, как Иисуса на доску объявлений прибили... А потом взяли маму, привязали до танка без сознания и по площади три круга провели. А круг площади – километр». Информация не была подкреплена фактами, но вызвала бурю возмущения в России. Только в декабре, когда во время пресс-конференции Владимира Путина Ксения Собчак спросила – почему никто так и не извинился за фейковый сюжет, в эфире «Первого канала» ведущая Ирада Зейналова сообщила, что у журналистов действительно не было и нет доказательств описанной в сюжете истории. Извинений, впрочем, не последовало.

### №4. Сняли с поезда и отправили в Нацгвардию

Журналисты из соседней страны упражнялись в распространении фейков не только по официальным каналам, но и на личных страничках в соцсетях. Пост в Facebook шеф-редактора канала «Россия 24» Алены Кочкиной собрал почти две с половиной тысячи «лайков» и больше шести тысяч комментариев. Кочкина написала, что «ребят снимают с поездов и отправляют в Нацгвардию». В комментариях украинцы устроили непревзойденный троллинг – в Нацгвардию снимали всех, все и отовсюду.

### №5. Два раба и клочок земли

Само собой, что все «снятые с поезда» не хотели служить без поощрения, с точки зрения журналистов из России. Поэтому уже в июле «Первый канал» выпустил сюжет, в котором жители Донбасса жаловались на то, что украинским силовикам пообещали за войну «по клочку земли и два раба». Реакция соцсетей не заставила себя ждать:




### №6. Изнасилование пенсионерки с эпилепсией

В ноябре канал «Россия 1» в прямом эфире ужаснул зрителей очередным фейком. В прямом эфире в политическом шоу один из участников рассказал, что украинские военные на блокпостах отбирают у людей «последний десяток яиц», и даже на глазах у пассажиров автобуса изнасиловали 47-летнюю пенсионерку, у которой случился эпилептический приступ.

А бывший депутат Донецкого облсовета от КПУ Ирина Попова в эфире того же канала сообщила о том, что в селе Глинка украинские военные забили до смерти ногами за отказ кричать «Слава Украине!». А потом добили тремя выстрелами в грудь. Странно, что не изнасиловали, да?

### №7. Мальчик-мишень для ракет ВСУ

Канал НТВ не остался в стороне от потока антиукраинской пропаганды. 2 ноября вышел сюжет «Нацгвардейцы со шприцами сделали из донецкого мальчика мишень для ракет». Украинские военные, по словам журналистов, избили родителей мальчика Стаса и приказали ему разведать места дислокации блокпостов «ополченцев». Мальчика предварительно «нашпиговали» датчиками для наведения артиллерии. Ну и наркотиками обкололи. Потом, правда, оказалось, что ребенка разыскивает украинская милиция, поскольку он ушел из дома еще 12 октября. У мальчика оказалась «легкая степень умственной отсталости» и он склонен к бродяжничеству. Но кого это уже интересовало? Зритель получил свою порцию адреналина.

### №8. Кровь российских младенцев

В декабре похолодало и потому в российских СМИ появился новый ужастик. Егор Кваснюк, который называет себя координатором движения «Куликово поле», в эфире канала «Россия 1» сообщил, что по школам Украины прошел приказ «согреть солдат АТО кровью русских младенцев».

### №9. Концлагерь в Мариуполе

А агентство Voenkor.info сообщило в декабре о том, что украинские солдаты устроили в поселке Володарское, вблизи Мариуполя, концлагерь для тех, кого заподозрили в симпатиях к боевикам. В промежутках между обычными зверствами бойцы ВСУ, по словам российских журналистов, развлекались тем, что выгоняли пленных на минные поля.

### №10. Свободу синичкам, смерть – снегирям!

Ну и совсем свежий, предновогодний фейк от телеканала «Россия 1». В Запорожье учителя призвали спасать от голода синиц и уничтожать снегирей. Потому что синичка, она желто-голубая и символизирует Украину, а снегирь, с красной грудкой, олицетворяет Россию. Украинцы в соцсетях, впрочем, тут же заявили, что снегири – они вообще-то, красно-черные, и потому представляют собой очевидную пропаганду «Правого сектора». Но мем «Съешь снегиря» уже покатился по сети.

# РАБОЧАГА НЕ ЎЗЯЛІ НА ПРАЦУ, БО ДЗЯРЖАЎНЫЯ СМІ НАЗВАЛІ ЯГО ПРАВАКАТАРАМ

25-26 лютага 2015 г. прайшлі судовыя пасяджэнні, на якіх разглядаўся пазоў магілёўскага грамадскага актывіста Аляксея Паўлоўскага аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі да ААТ «Магілёўскі домабудаўнічы камбінат» і яго прафкаму.

У 2012 годзе А.Паўлоўскі, знаходзячыся на ўліку ўва Упраўленні па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Магілёўскага аблвыканкаму, атрымоўваў накіраванні на працаўладкаванне ў Магілёўскі ДБК. Але прадпрыемства некалькі разоў адмовіла Паўлоўскаму ў працаўладкаванні з прычыны «нязгоды працоўнага калектыву».

У пратаколе сумеснага пасяджэння адміністрацыі і прафсаюзнага камітэта ДБК ад 21.08.2012 г. было пастаноўлена: «пры працаўладкаванні Паўлоўскаму адмовіць у сувязі з нязгодай працоўнага калектыву». Прычынай гэтай нязгоды ў пратаколе пасяджэння ўказана тое, што кіраўніцтву вядомыя негатыўныя наступствы прыёмаў Паўлоўскага на іншыя прадпрыемствы горада, і адмовіць яму трэба “для паляпшэння мікраклімату ў калектыве і недапушчэння дэстабілізацыі абстаноўкі на прадпрыемстве”.


Последнее слово всегда остается за общественным мнением (Наполеон Бонапарт)

СИТУАЦИ...

Как стать звездой

...ение каменщика 5-го разряда с хороводом журналистов и салютом фотов...

*Артыкул у газеце «Беларускі час»*

Паўлоўскі прасіў суд прызнаць несапраўднымі і ганячымі ягоны гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю сведчанні, ўказаныя ў пратаколе ад 21.08.2012 г., абавязаць адказчыкаў адклікаць выпіску з гэтага пратаколу і прымусіць іх абвергнуць гэтыя сведчанні.

Адказчыкі ў судзе заявілі, што іх высновы што да Паўлоўскага былі зробленыя выключна на падставе дзьвюх публікацыяў у газеце “Беларускі час” і сюжэта, паказанага па беларускім тэлебачанні.

У №2 і №3 за студзень 2012 г. газеты “Беларускі час”, якая з’яўляецца афіцыйным выданнем Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, былі змешчаны артыкулы “Як стаць зоркай” і “Як стаць зоркай-2”. У іх распавядалася, як брыгада муляроў спачатку праявіла працоўную салідарнасць з Паўлоўскім, з якім адміністрацыя вырашыла не працягваць кантракт, а потым ўзяла свае словы назад. Сюжэт пра гэтую гісторыю быў неўзабаве паказаны на канале “Беларусь 1”. У ім муляр, імя якога не называецца, прадстаўлены правакатарам.

Суддзя суду Ленінскага раёна г. Магілёва Андрэй Юрчанка вырашыў, што патрабаванні заяўніка задавальненню не падлягаюць. Як ён заявіў у судзе, сведчанні пра Паўлоўскага аказаліся сапраўднымі і яны ня ганяць ягоны гонар і годнасць. Ён зрабіў такую выснову на падставе згаданых публікацыяў у прэсе і сюжэце, што быў паказаны па беларускім тэлебачанні.


*Аляксей Паўлоўскі*

Аляксей Паўлоўскі будзе абскарджваць рашэнне суда ў касацыйнай інстанцыі. Таксама ён мае намер распачаць працэс супраць газеты “Беларускі час”.

Грамадскі актывіст Аляксей Паўлоўскі у прафсаюзным руху ад пачатку 1990-х. Ён удзельнік і ініцыятар шматлікіх грамадскіх і палітычных кампаніяў ды акцыяў; шмат разоў быў звольнены з працы за сваю дзейнасць.

*У нумары выкарыстаныя матэрыялы ПЦ «Вясна», Gordonua.com*

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.